

# МАЛЕНЬКІЯ МУЗЫКІ

Пачалося з таго, што аднойчы бацька купіў Кіму падарунак—дзіцячы гармонік. Праз некалькі дзён Кім ужо нядрэнна іграў. Ён слухаў музыку па радыё і паўтараў потым тое самае на гармоніку.

Маленькая Клара да гэтага часу захаплялася больш песнямі. Але цяпер і яна зацікавілася музыкай і пачала таксама крадком іграць на братавым гармоніку. Кім не вельмі ахвотна даваў сястры свой гармонік. Прышлося купіць Клары другі гармонік.

Але вось бяда: гармонік хоць і дзіцячы, а расцягнуць яго трэба мець сілу. Трохгадовай Клары цяжка з ім справіцца. І Клара прыдумала свой спосаб іграць: яна бярэ гармонік наадварот, добра сціскае яго пальцамі, а вялікім водзіць па галасах.

Цяжка іграць адным пальцам, але Клара спраўляецца нядрэнна. Спачатку яна падыгравала Кіму, а цяпер сама іграе не горш за брата — „Марш вясёлых рэбят“, „Яблычка“, „Крыжачок“, „Лявоніху“, „Усё вышэй“.

Не так даўно семігадовы Кім і трохгадовая Клара Прыгуновы выступалі на алімпіядзе ў клубе кааперацыйных работнікаў. Усе прысутныя былі здзіўлены, што такія маленькія дзеці ды так добра іграюць. А Клара ў сваю чаргу дзівілася, прыжмурваючы вочы, што дарослыя з такой цікавасцю слухаюць яе ігру. А слухаць сапраўды было што.

г. Менск.

---

На вокладцы—**«Вясёлае дзяцінства»**. **Рысунак** А. Шахрая



# ВЯЛІКІ ПРАВАДЫР

*(З пісьма беларускага народу вялікаму СТАЛІНУ)*

Ты сонца для нас, што зямлю асвяціла
І ласкай сагрэла палі, гарады.
Ты рэк поўнаводных імклівая сіла,
Празрыстасць крыніц—дарагі правадыр!

Твой вобраз, як вокліч устаў над зямлёю,
Заве пераможна ісці ў барацьбе.
Мы ўсе ля Крэмля нашым сэрцам з табою,
І першая думка ў нас—пра цябе.

Праз тры рэволюцыі, бойкі, паўстанні
Ты вёў разам з Леніным нашы рады...
Ты нашых садоў і палёў красаванне,
Ты наша вясна—дарагі правадыр!

Табе—наша радасць, любоў і адданасць,
Табе—пяе славу сусветная шыр.
Вядзі нас, любімы, табой мы з'яднаны,
Ты наша жыццё—дарагі правадыр!

Ураду вялікай краіны Советаў
І партыі, даўшай нам шчасце і мір,
За гонар, за веліч людскога расцвета
Падзяку прымі—дарагі правадыр!



# МАЛЕНЬКІЯ МУЗЫКІ

Пачалося з таго, што аднойчы бацька купіў Кіму падарунак—дзіцячы гармонік. Праз некалькі дзён Кім ужо нядрэнна іграў. Ён слухаў музыку па радыё і паўтараў потым тое самае на гармоніку.

Маленькая Клара да гэтага часу захаплялася больш песнямі. Але цяпер і яна зацікавілася музыкай і пачала таксама крадком іграць на братавым гармоніку. Кім не вельмі ахвотна даваў сястры свой гармонік. Прышлося купіць Клары другі гармонік.

Але вось бяда: гармонік хоць і дзіцячы, а расцягнуць яго трэба мець сілу. Трохгадовай Клары цяжка з ім справіцца. І Клара прыдумала свой спосаб іграць: яна бярэ гармонік наадварот, добра сціскае яго пальцамі, а вялікім водзіць па галасах.

Цяжка іграць адным пальцам, але Клара спраўляецца нядрэнна. Спачатку яна падыгравала Кіму, а цяпер сама іграе не горш за брата — „Марш вясёлых рэбят“, „Яблычка“, „Крыжачок“, „Лявоніху“, „Усё вышэй“.

Не так даўно семігадовы Кім і трохгадовая Клара Прыгуновы выступалі на алімпіядзе ў клубе кааперацыйных работнікаў. Усе прысутныя былі здзіўлены, што такія маленькія дзеці ды так добра іграюць. А Клара ў сваю чаргу дзівілася, прыжмурваючы вочы, што дарослыя з такой цікавасцю слухаюць яе ігру. А слухаць сапраўды было што.

г. Менск.

---

На вокладцы—**«Вясёлае дзяцінства».** Рысунак А. Шахрая



# ВЯЛІКІ ПРАВАДЫР

*(З пісьма беларускага народу вялікаму СТАЛІНУ)*

Ты сонца для нас, што зямлю асвяціла
І ласкай сагрэла палі, гарады.
Ты рэк поўнаводных імклівая сіла,
Празрыстасць крыніц—дарагі правадыр!

Твой вобраз, як вокліч устаў над зямлёю,
Заве пераможна ісці ў барацьбе.
Мы ўсе ля Крэмля нашым сэрцам з табою,
І першая думка ў нас—пра цябе.

Праз тры рэволюцыі, бойкі, паўстанні
Ты вёў разам з Леніным нашы рады...
Ты нашых садоў і палёў красаванне,
Ты наша вясна—дарагі правадыр!

Табе—наша радасць, любоў і адданасць,
Табе—пяе славу сусветная шыр.
Вядзі нас, любімы, табой мы з'яднаны,
Ты наша жыццё—дарагі правадыр!

Ураду вялікай краіны Советаў
І партыі, даўшай нам шчасце і мір,
За гонар, за веліч людскога расцвета
Падзяку прымі—дарагі правадыр!

# БРАТЫ-АСІЛКІ

НАРОДНАЯ КАЗКА

Рысункі К. ГЕДДЫ.

Як даўно здарылася гэта, у якіх краінах, пры якіх царах— здагадвайцеся самі.

Жыў-быў селянін. Ніхто не ведаў ні яго імя, ні прозвішча, а звалі яго ўсе Цярпігора. Жыў ён, як і ўсе жылі: сыты не бываў і з голаду не паміраў. Багацця ў яго ўсяго і было, што тры лапці зямлі на ўзгорку, лядаштая кабылка ды гнілая хатка з адным акенцам.

Бяды-ліха селянін той меў нямала, а другім на гэта не скардзіўся. А ўсё таму, што раслі ў яго на падмогу, старасці на ўцеху, тры сыны-асілкі: Клім, Рыгор ды Сымон. Такіх сыноў пашукаць—не знойдзеш: і розумам, і прыгажствам, і спрытам—малайцы, як на падбор.

Толькі не давялося старому паспытаць салодкага жыцця. Падкасіла яго ліхая хвароба, падсекла сілы яго ліхаманка.

Ляжыць стары на печы і чуе—прыходзіць яму пара паміраць. Паклікаў ён да сябе сыноў і кажа ім:

— Хачу я вам, саколікі мае, даць сваё блаславенне ды бацькаўскую параду. Цяжка жыць на белым свеце, а яшчэ цяжэй вам прыдзецца, калі не будзе між вас добрай згоды.

Уздыхнуў стары, блаславіў сыноў і выняў з-за пазухі анучку. А ў анучцы той быў загорнут камень. Аддаў ён сынам анучку і кажа:

— Даю я вам гаруч-крэмень. Сіла ў ім — нечуваная. З любой бяды, з усялякай напасці выратуе. Толькі сілу сваю ён тады пакажа, калі вы сваім гарбом і сумленнем тры ісціны ўведаеце. Першая гэта ісціна— у чым зло людское. Другая ісціна—у чым сіла народная. І трэцяя—у чым шчасце чалавечае.

Хацеў-быў стары яшчэ нешта сказаць, але дух захапіла—відаць, смерць прышла.

Пахавалі сыны бацьку па чыну, як належыць. Сталі жыць адны. Жылі добра, у згодзе, крыўдам паміж сябе не давалі заводзіцца.

Толькі неўзабаве прышлося братам разлучыцца. Рыгору прышоў час у салдаты ісці. Пабедавалі браты, пабедавалі і выправілі яго ў далёкую дарогу. А праз год і Клім пайшоў.

— Што-ж,—кажа ён Сымону,—я цябе цясніць не буду. На бацькавай зямлі і аднаму хлеба мала. Жаніся, Сымон, нажывай сям'ю, можа жыць і лепш стане. А я па белым свеце пайду, свайго шчасця пашукаю.

— Што-ж,—кажа Сымон,—ідзі, калі добрая воля.

Развіталіся браты па-брацку.

Цяжкая і горкая доля выпала Кліму. Хадзіў ён, хадзіў па белым свеце і не знайшоў кутка-прытулку. Ліха-бяды пабачыў нямала. Якім ён толькі рамяством не займаўся: і на купцоў працаваў, і на папоў, і на заводы

на ўсякія наймаўся, а шчасця-ісціны так і не знайшоў.

Працуе Клім да астатняй сілы, начэй не дасыпае, ад зморы ногі не трымаюць, а прыдзе разлік—атрымай грош шчарбаты. Не стрываў аднаго разу Клім, ды як стукне кулаком па стале перад самым носам гаспадара:

— Дакуль-жа, крывасмокі, кроў нашу піць будзеце!?

Не паспеў ён болей і слова сказаць, як акружылі яго гарадавыя ды приставы*). Закруцілі яны яму рукі назад, звязалі вяроўкамі і пасадзілі ў турму.

У турме вось і стрэўся Клім з адным чалавекам. Той і адкрыў яму вочы.

— Я,—кажа,—не разбойнік і не душагуб які. Я—большэвік. Праўду рабочаму люду тлумачу. Не відаць рабочаму люду добрага жыцця да таго часу, пакуль багацеі ўсім уладаць будуць. Трэба адабраць у багацеяў фабрыкі і заводы, у купцоў—іхнія капіталы, тады і ўлада і сіла іх рассыплецца, як парахня. Багацеі трымаюць народ на ланцугу сваімі капіталамі. А нажыты гэтыя капіталы працоўным народам. Вось і выходзіць, што не сваім дабром, а народным гаспадараць багацеі. Адабраць багацці і ўладу ў іх няцяжка. Трэба толькі рабочаму люду разам сабрацца, ды змагацца разам. На кожнага багацея больш тысячы рабочых прыдзецца. Вось і разваж, хто-ж дужэйшы.

Сядзіць Клім у турме і думае пра словы чалавека. І так прыкіне, і гэтак разважыць—і выходзіць: праўду кажа большэвік.

І пазнаў тут Клім ісціны, пра якія казаў бацька. Пазнаў ён, у чым зло людское, ў чым сіла народная, і ў чым шчасце чалавечае.

Вышаў ён з турмы. Зноў на завод працаваць пайшоў. Дзеля віду стараннасць сваю паказвае, а сам паціханьку, памаленьку рабочым большэвіцкую праўду расказвае. І стаў з таго часу Клім у рабочых нібы за важака.

Не лепшым было жыццё і ў Сымона. Ажаніўся ён. Сям'ю нажыў. Дзяцей—куча цэлая. Толькі, як ні біўся ён на бацькавай зямлі—усё ніякай радасці не выходзіць. Тут да ўсяго яшчэ і конь бацькаў здох. І ў работнікі наймаўся Сымон, і на другія работы хадзіў—толку ніякага. Сабраў ён аднаго разу ўсё, што меў, ды купіў сабе каня.

„Цяпер,—думае Сымон,—можа як-небудзь з бяды-гора вылезу“.

Але дзе там! Адабралі коніка за падаткі. Агалілі зусім—хоць у пятлю лезь.

Добра яшчэ, што трапіўся чалавек адзін. Ён-то і навучыў Сымона розуму.

Вазіў раз Сымон з другімі сялянамі панскае сена з далёкага лугу. Едуць яны, едуць вакол, куды ні глянь—поле чыстае. Бачаць сяляне—бяжыць да іх насустрач чалавек нейкі. Бяжыць—з сілы выбіваецца. Падбег і просіцца:

— Ратуйце, людзі добрыя! Схавайце мяне ад пагоні. Бягуць за мною жандары зураднікамі.

Вось Сымон і схаваў чалавека таго ў сена. А жандары тут, як тут.

— Ці не бачылі вы чалавека, які ўцёк ад нас?—пытаюцца яны, а вачыма па вазах, як ваўкі, шнараць.

— Не, нікога мы не бачылі.

— Як гэта не бачылі, такія-сякія... Нікуды ён падзецца не мог.

— Не бачылі, ды і ўсё.

Пазеленеў ад злосці старшы жандар.

— Звальвай вазы. Перакопвай сена!—закрычаў ён.

Напалохаліся сяляне—бачаць, што справа дрэнная. А Сымон вось тут усіх і выратаваў.

—Ваша,—кажа ён,—благароддзе, сена гэта не наша, а панскае. Скінуць сена мы скінем, толькі апраўданне дайце нам перад панам—лаяцца ён будзе, што затрымаліся.



*— Дакуль-жа, крывасмокі, кроў нашу піць будзеце!?*

*) Царскія служкі.



*Выняў жандар вострую шашку і давай ёю пароць сена.*

Скажыце нам, як вас па імені-прозвішчу велічаюць, а мы пану і перадамо.

Відаць, пан той быў вядомы і багаты. Пабаяўся яго жандар. Выняў ён вострую шашку і давай ёю пароць сена. Парне раз, паглядзіць на шашку, ці няма крыві і далей ідзе. Дайшоў ён да Сымонавага воза. Парнуў шашкай і трапіў у руку схаванаму чалавеку. Хоць і забалела яму, але ён здагадаўся ды абцёр рукавом кроў з шашкі.

Пакрычаў-пакрычаў жандар на мужыкоў, ды так ні з чым і пайшоў.

Выцягнулі сяляне чалавека з воза. Руку перавязалі. А ён і расказаў ім пра ўсё.

Я, кажа, не душагуб які, я—бальшэвік. Супроць несправядлівасці змагаюся. Вось, кажа, падумайце самі: паны не працуюць, а дабра ў іх усякага цераз край, а вы працуеце-працуеце і на сябе, і на паноў, а ўсё ў вас няма нічога. І не будзе. Таму, што сіла паноў на зямлі трымаецца. Адбярыце ў іх зямлю і ўся ўлада панская дымам пойдзе. Толькі рабіць гэта трэба адзінаю сілаю, усім разам.

Падзякаваў чалавек сялян і пайшоў. А ў Сцяпана яго словы з галавы не выходзяць: праўду кажа бальшэвік.

І пазнаў тут Сымон ісціны, пра якія казаў бацька.

З таго часу рэзаў Сымон бальшэвіцкую праўду ўсім у вочы. І ўсе сяляне-бедныя любілі яго за гэта. Ён нібы важаком стаў у іх.

Не салодкая доля выпала і Рыгору. Дзень і ноч—усё на нагах. Адною муштраю замучылі.

Шмат гадоў праслужыў Рыгор у салдатах, а праўды-ісціны так і не дачакаўся.

Неўзабаве пачалася сусветная вайна. Народу палягло канца краю няма... Колькі холаду і голаду нацярпеліся салдаты—рас-

казаць немагчыма. Але тут вось і пашанцавала Рыгору да ісціны дайсці.

Быў у іхнім палку чалавек адзін. Салдат, як салдат, толькі, відаць, бывалы быў. Як пачне ён расказваць пра жыццё ўсякае, дык усе слухаюць яго, не наслухаюцца. А жартаўнік ён быў выдатны. За ўсё гэта і любілі яго салдаты. Толькі здарылася раз з ім нечаканая бяда. Даведалася начальства, што гэты самы салдат баламуціць полк супроць вайны. Схапілі яго і перад усім палком на расстрэл вывелі: шпіён, кажуць.

А салдат тут адапхнуў ад сябе афіцэраў і на ўвесь голас крыкнуў таварышам:

— Не шпіён я, не здраднік братам-салдатам, а большэвік! Смерць мне нідзе не страшная: тут або ў акопах. Толькі ад вашых салдацкіх рук гінуць крыўдна. Я такі-ж як і вы, бедакі, а караць мяне хочуць за тое, што я вам праўду кажу. Навошта мы ваюем? Каму вайна патрэбна? Патрэбна яна багацеям ды царам. Заваюй хоць увесь свет, усёроўна нам палацаў не дадуць. Перамогуць нас — усёроўна з нас больш узяць няма чаго. Усё адабрана. Чым галовы дарэмна за цароў складаць ды жонак з дзецьмі жабракамі па свету пускаць, лепш пакончыць з царамі ды багацеямі, каб вайны больш ніколі не было.

Пераглянуліся салдаты між сабою і думаюць: а і праўду кажа большэвік. Апусцілі яны стрэльбы і топчуцца на месцы.

А чалавек той асмялеў. Кінуўся ён на афіцэраў і крычыць салдатам:

— Вось іх трэба знішчыць!

Першым на дапамогу чалавеку кінуўся Рыгор, а за ім і ўсе другія. Расправіліся салдаты з начальствам і выбралі Рыгора камандзірам сваім. А большэвік развітаўся з усімі і пайшоў у другі полк. І пазнаў тут Рыгор ісціны бацькаўскія.

І толькі здарылася гэта, загарэўся гаруч-крэмень нутраным святлом. Узвіўся ён у неба і загарэўся нягаснучай чырвонай зоркай. Узняліся тут магутныя раці: раць рабочая, раць сялянская і раць салдацкая. Падняліся яны супроць сваіх ворагаў — цароў, фабрыкантаў, паноў, генералаў ды чыноўнікаў. Вялікая была бітва, але працоўную раць перамагчы нічым нельга. Разбіла яна ўсіх крывасмокаў і пачала будаваць жыццё па-новаму.

А чырвоная зорка і зараз ярка гарыць для народу, каб не забыўся ён пра тры ісціны.

Першая гэта ісціна: зло людское — у багацеях, у тых, хто не працуе, а чужою працаю жыве і панствуе.

Другая гэта ісціна: сіла народная — у згодзе рабочых, сялян і салдат.

І трэцяя ісціна: шчасце чалавечае — у працы для ўсіх працоўных.

Запісана са слоў 83-гадовага дзеда Міхаіла Пракофавіча Проніна (Тураўскі раён, калгас „Дружба").





# НАРОДНЫ ПАЭТ

*Народны паэт БССР* ***Якуб Колас*** *— адзін з выдатнейшых сучасных совецкіх пісьменнікаў. Яго творы з захапленнем чытаюцца працоўнымі ўсяго Совецкага Саюза. Шмат цікавых, прыгожых твораў напісаў Якуб Колас і для дзяцей. Сёлета ў кастрычніку м-цы споўнілася 30 год літаратурнай работы Якуба Коласа. Шчырае прывітанне дарагому юбіляру ад самых юных яго чытачоў!*

## ШЧАСЛІВАЯ ХВІЛІНА

### ЯКУБ КОЛАС

Нясе маці з ясляў сына,
Песціць яго, туліць
Ды варкуе з яснай мінай
Так, каб іх не чулі.
„Брыгадзір ты мой удалы,
Цвецік свежы макаў!
Як цябе там даглядалі?
Мо' ты ў яслях плакаў?
Не? Не плакаў? Малайчына,
Мой калгаснік слаўны,
Мой ударнік, хват мужчына,
Трактарыст упраўны!
А я ў полі прыбіраю
Жыта ў перавяслы
Ды сама сябе пытаю,
Як мой сын у яслях?
А сынок мой чысты, мыты—
Маладзічок ясны!
І расчэсаны, глядзі ты,
Кудраў яго пасмы!
От мой сын які шчаслівы!
Як аб ім тут дбаюць!
Бо ты-ж—рунь калгаснай нівы
У совецкім краю!

А на лета мы адчынім
Яшчэ й сад дзіцячы.
Вось разгон майму хлапчыне!
Вось дзе ён заскача!
А там цацак—падзівіцца!
Ды якія цацкі!
Ты з іх зложыш дом з святліцай,
Клуб змайструеш хвацкі.
Падрасцеш, вучыцца будзеш,
І чым далей—болей,
А кім быці, сам рассудзіш
Сваёй добрай воляй.
Можа будзеш інжынерам?
Можа аграномам?
Бо-ж нам вольны ўсюды дзверы—
Дома і за домам.
Ці ты будзеш лётчык смелы,
Каб у небе плаваць
Ды прастор яго знямелы
Поўніць лётнай славай?
Хлопчык з усмехам шчаслівым
Слухае матулю
І да маткі так жычліва
Шчочку сваю туліць.



# Страшнае спатканне

*Апавяданне ЯКУБА КОЛАСА*

*Рысункі К. ГЕДДЫ*

— Вось што, Тараска: годзе табе ўжо каля рэчкі бегаць, а лепш занёс-бы ты дзядзьку полудзень на Высокі бераг. Не палянуйся, сынок,—сказала мне матка.

Я быў хлопец паслушны, любіў, калі мяне за гэта хвалілі. Мяне таксама цікавіў і рум на Высокім беразе. Вы напэўна не ведаеце, што гэта за штука такая „рум“. Румам у нас называюць тое месца, куды вывозяць зімою калоды з лесу, каб вясною збіць іх у плыты і сплаўляць па рэчцы.

Усю зіму возяць туды калоды, навязуць іх, бывала, столькі, што загрузяць імі ўвесь бераг. А калоды ўсе такія тоўстыя, такія гладкія, роўныя,—паглядзець, і то было люба. А колькі там было народу, колькі гоману, крыку і смеху! Проста, як на кірмашы.

Разумеецца, я з вялікаю ахвотаю згадзіўся занесці дзядзьку полудзень.

Яшчэ зранку, на досвіце, пайшоў наш дзядзька на рум біць калоды. У маім прадстаўленні яшчэ і цяпер жыва ўяўляецца гэты высокі бераг над Нёманам, дзе так страшна бушуе веснавая вада. Яна не тоўпіцца ў берагах, імкнецца напрасткі, на ачосы, выліваецца з берагоў і шырокаю стужкаю, хвалюючыся, бяжыць па нізкіх лагчынах, як-бы хоча хутчэй дабегчы ў нейкі далёкі-далёкі край, каб першаю прынесці туды якуюсь вельмі важную вестку адгэтуль. А самым цікавым для мяне было пабачыць, як з высокага яруса дрэваў кацілі ў Нёман калоды. Высока над вадою ляжаць гэтыя ярусы. Ад гэтых ярусаў да самай вады падложаны тонкія, доўгія бярвенні, каб калоды каціліся латвей і шпарчэй. На ярусах, як мухі, стаяць маладыя хлопцы і сталыя мужчыны з бомамі ў руках.

—Р-р-разам! р-р-разам!

Пагукваюць хлопцы і падважваюць бервяно. Узнялі, зрушылі. Бервяно коціцца што-раз шпарчэй.

На момант усё заціхае.

З нестрыманаю сілаю імкнення і з громам бервяно падае ў ваду,

— Гу-у-у-у!—бухаецца яно ў Нёман, на момант знікае ў вадзе, і толькі цэлая сцяна срэбных пырскаў узнімаецца ў гэтым месцы.

Я жыва сабраўся, дастаў з пячуры сваю дубінку, бо ў лесе мог налучыцца воўк, а, седзячы ў хаце, я ўжо колькі разоў лупцаваў у сваіх думках гэтаю дубінаю воўка; ўзяў дзядзьку полудзень і вышаў з хаты. На дварэ каля хлява, на сухой кастрыцы, ляжаў Галас, з якім я быў у вялікай



*Галас падышоў да мяне.*

дружбе. Убачыўшы мяне, Галас завіляў хвастом у знак прывітання.

Я свіснуў.

Галас, падняўся, пацягнуўся і пазяхнуў. Але, як відаць, ён не выспаўся або так штосьці заленаваўся, бо не кінуўся адразу да мяне, як рабіў гэта звычайна. Ён прысеў на кастрыцы і задняю нагою стаў чухаць каля вуха.

— Галаска, цюцік! На, цю, на! На, цю, на!—паклікаў я яго.

Галас, схіліўшы на бок галаву, падышоў да мяне бачком, панюхаў дзядзькаў полудзень і зірнуў мне ў вочы. Я заўважыў, што ён быў не галодны. Гэтым і тлумачылася яго гультайства.

— Шукай зайца! шукай зайца!—крыкнуў я і пабег, каб гэтым самым уцягнуць і дадаць руху гультаю-Галасу.

Галас неахвотна пабег за мною, правёў мяне за кладку; але як толькі ўвайшоў я ў лес, мой Галас пачаў адставаць: сядзе на дарозе і сядзіць. А калі я агледаўся, ён махаў хвастом, як-бы хацеў сказаць, што ў яго няма ніякай ахвоты ісці са мною.

Галас зрабіў мне яшчэ адну ці дзве ўступкі і сяк-так дайшоў да лесу. Але тут ён спыніўся каля першых хвояў, доўга нюхаў зямлю і ўжо не падымаў на мяне галавы, як я яго не клікаў, і не зварачаў на мяне ўвагі. Панюхаўшы, Галас азірнуўся вакол, штосьць разважаючы, і трушком пабег краем лесу ды знік.

— Ну, я-ж табе пакажу!—патрос я дубінкаю ў бок Галаса і пайшоў далей.

Гэта здарэнне з Галасам крыху парушыла мой добры настрой, у якім быў я, выходзячы з дому.

...Лес быў стары і глухі. Па адзін бок дарогі стаялі больш ёлкі, але такія цёмныя і панурыя, што нічога добрага не казалі майму сэрцу. То там, то сям, паміж зялёных сакавітых галінак, доўгімі кудламі звісалі пасмы сівага моху, якраз як тая барада жабрака Яноля, які заўсёды пужаў мяне сваёю сіваю барадою і наогул здаваўся мне страшным. І ці не Яноль гэта выглядае вунь там з-за ёлкі? „Э, глупства!“ сказаў я сам сабе і адвёў свае вочы з гэтай яліны, але ў мяне засталася нейкая непрыемнасць.

Чым далей падаваўся я ў гэты лес, тым усё болей глушэла. І галасы птушак, што так звонка нясліся з акраіны лесу, цяпер змоўклі. Або іх тут не было, або яны проста не адважваліся падаваць голасу? Скарэй за ўсё баяліся, бо птушкі наогул тут пападаліся. А самы лес рабіўся больш і больш непрыхільным, чужым, незнаёмым і, што горш за ўсё, варожым. Калі я пазіраў у бок лугу, які прасвечваўся скрозь галіны лесу, мне было крыху весялей. Але як толькі я кідаў вочы ў процілежны бок, асабліва на гэта Паляшукова балота, я чуўся не па сабе. Там цягнуўся вялікі лес, лес густы і стары. І пазіраў ён на мяне зусім неласкава. Ён быў пахмурны і, як мне здавалася, не любіў, калі ў яго ўладарства асмельваўся заходзіць такі вузел, як я. Яго погляд ясна казаў мне:

— Вось пачакай—пакажу я табе, як аднаму хадзіць праз лес!

— А што ты мне пакажаш?—храбрыўся я.—Я цябе не баюся!

І тут-жа ў думках зазначыў сам сабе, што я сказаў нядобра: не трэба быць такім грубіянам, бо ўсё-ж такі гэта лес—мне не роўня, ён гатоў яшчэ больш усердавацца і ўгнявацца. Ды што яму абходзіць узяць і сапраўды пакараць мяне, кінуўшы якому-небудзь страху? Хіба мала ў яго гэтых служак? Толькі падумаў я так, мае вочы самі, як-бы іх што прыцягнула, зірнулі ў падножжа з

таго лесу і затрымаліся на лясным страшылішчы—вывараце. Гэта была ўжо старая хвоя, вывернутая бураю. Яе доўгія жоўтыя карэнні, як вусы і лапы цёмнага страху, высока ўзнімаліся над зялёным мохам. Гэтыя лапы і вусы і жоўтая зямля між імі мелі вельмі страшны выраз і свой яркі і пэўны вобраз. Гэтаму-ж вобразу маё ўяўленне дадавала розныя формы і змест, варта было толькі затрымацца на іх крыху даўжэй. Я добра ведаў, што гэта—выварат, звычайная з'ява ў лесе. Мне прыходзілася сустракаць іх вельмі часта і разглядаць іх зблізку, унікаць ва ўсе іх схованыя каморкі, і тым не меней я не мог вызваліцца ад пачуцця нейкага страху, якім пагражалі мне гэтыя вывараты. Мне здавалася, што пад выварата́м ці ў самым вывараце штосьці таіцца і адразу можа выявіцца, але з таго боку і ў тым вобразе, якіх мне не адгадаць.

Цяпер я пачуў, што гэта дарога не так проста і лёгка, якою здавалася яна мне дома. І мне зноў успомніўся Галас. Цяпер я даваў больш пэўнае тлумачэнне яго учынку, калі ён не згадзіўся ісці са мною праз лес. Цяпер я зразумеў, што Галас напэўна чуў воўчыя сляды, калі ён так доўга затрымаўся каля першых хвояў, адкуль і вярнуўся дадому. Мне стала маркотна і вусцішна. А гэтая дубінка, з якою я так казырыўся на печы, паказалася мне проста смяхотнай.

А на палавіне маёй дарогі, як сумысле, стаяў самы цёмны лес. Тут было найбольш страшнае месца дарогі, бо з гэтым лесам было звязана ў мяне многа розных апавяданняў аб страхах і розных выпадках, якія налучаліся тут з людзьмі. І гэта месца было ўжо блізка.

Самае важнае—мінуць лінію. Прайшоўшы яе, можна лічыць, што палавіну дарогі я зрабіў, бо ўжо далей пойдзе вясёлая палянка. Яна заўсёды сустракала мяне прыветна, як-бы яна мне спагадала. Там пачнецца яшчэ адна цёмная лагчына, праўда, невялікая, а там Доўгі лужок, Бервянец, а за ім і Высокі бераг.

Мне страшна, але я іду.

Ну, вось і лінія. Якая яна роўненькая! Яна перасякае мне дарогу. Адзін канец яе бяжыць кудысь далёка праз узгорак у глыб лесу, а другі ідзе праз цёмны-цёмны ельнік і выходзіць на луг. Але цяпер луг аддаліўся, і я ўжо не бачу яго.

Я прайшоў яшчэ крокаў сто. Па правай руцэ цягнуўся ельнік уперамежку з маладымі хвоямі, а з левага боку пачынаўся бярэзнік. Гэта той самы бярэзнік, дзе летась наш дзядзька, ходзячы па грыбах, напаў на „неруш" і набраў цэлую сявеньку слаўных баравікоў-бярозавікаў. Тут пачыналася дарога на Млыновішча.

І толькі зірнуў я ў кут між гэтых дарог, як адразу спыніўся і аслупянеў. Валасы на галаве сталі падымацца і расці, шапка насунулася на вочы, а ногі страцілі здольнасць перасоўвацца. Скура на мне шорхнула, сэрца замлела, а па ўсяму майму нутру пракацілася нейкая гарачая хваля. Сярод старых бярэзін, нагнутых тоўстымі камлямі над зямлёю і абросшых сівым мохам, стаяў звер! Звер гэты быў незвычайна вялікі. Асабліва вялікай была яго галава і наогул увесь перад.



*Лес быў стары і глухі.*



*Мае вочы затрымаліся на лясным страшылішчы-вывараце.*

Гэтаю песняю мяне часта дражнілі дома, бо калісь я яе спяваў, неміласэрдна гаркаючы—я не мог тады вымавіць чыста „р“, а казаў „рл“, гэта і паслужыла прычынаю таго смеху, ад якога я часта аж на сцяну лез.

Чаму яна, гэта песня, прышла цяпер мне на памяць, я не магу растлумачыць.

А звер стаяў на адным месцы, загарадзіўшы мне дарогу. Ён стаяў нерухліва, толькі зрэдку, і то чуць-чуць заметна, варушылася яго страшная галава і велізарныя вушы. Думкі аб тым, як размінуцца з гэтым зверам і як занесці дзядзьку полудзень, у мяне не было, бо я быў цвёрда ўпэўнен у тым, што далей таго месца, дзе я стаю цяпер, я не зрушуся ні на адзін крок. Разгледзеўшы звера, я праканаўся, што гэта быў воўк. Я колькі разоў бачыў ваўка, але такога вялікага і страшнага мне не даводзілася бачыць ніколі.

Масці ён быў шэрай, шэрсць меў кудлатую і доўгую.

Першы момант анямення і адзервянення прайшоў, і мыслі мае пачалі крыху варушыцца і выяўляць сваю работу. Я нават перастаў адчуваць уплыў страху і ціханька, зусім без слоў, заспяваў сам сабе песню:

„Ходзіць свёкар па двару,
Расчасаўшы бараду“.

„Чаго-ж ён так узіраецца на мяне? Чаму ён не кідаецца і не хапае? Эх, Галас, Галас! Чаму ты не пабег са мною?“ Мяне ахапіў нейкі жаль, і я гатоў быў заплакаць. Мне так шкада стала свайго дому мамы і таты, братоў і сясцёр! „Эх, мілы мой братка Алесь! За што толькі дражніўся і біўся я з табою! Ох, гад-жа я, гад печаны! Як толькі хапала ў мяне дзёрзасці сказаць табе кепскае слова і падняць на цябе руку!

Я быў цяпер у становішчы той мухі, якая заблыталася ў павуціннe, а павук ужо рыхтаваўся, каб высмактаць з яе ўсе сокі. І што мне рабіць? Чаго стаіць гэты пракляты воўк? Чаму ён не душыць мяне? Чаго ён маўчыць?

А воўк, як-бы насміхаецца з мяне, стаіць пазірае, зачароўвае мяне сваім звярыным поглядам.

Міжвольна я пачаў памаленечку адступаць назад, не спускаючы вачэй з воўка. Воўк нічога—стаіць! Мне стала крыху лягчэй. Я ступіў назад яшчэ, яшчэ. Ужо крокаў дваццаць адышоўся я такім парадкам. Воўк чуць-чуць ужо відаць, але не варушыцца.

Павярнуўся тады я—у адной руцэ палка, у другой збан з дзядзькавым полуднем— і як засмаліў, як прылёг! Азірнуўся назад тады толькі, калі з лесу пачала выплываць наша хата. Тут я спыніўся, пайшоў ціха і важна, думаючы аб тым, як павесці дома апавяданне аб гэтым выпадку.

На дварэ мяне стрэў Галас і кінуўся да мяне кулём.

— Ідзі, ідзі: я цябе пачастую!

Як толькі Галас хацеў падскочыць, каб лізнуць мяне ў твар, я злосна штурхануў яго нагою.

— А каб ты апруцянеў, нягоднік ты!

Я ўвайшоў у хату.

— Чаму-ж ты вярнуўся?—спытала мяне мама.

Я стаў расказваць, што было ў дарозе.

Расказваў я далёка не так складна, як гэта было ўжо зложылася ў маёй галаве.

Матка выслухала мяне ўважліва, але не сказала таго, што ўсё гэта спатканне—вынік майго палахлівага ўяўлення.

А як вечарам прышоў з лесу мой тата і сказаў, што ў Пятровіцах (як раз недалёка ад месца, дзе быў гэты выпадак) воўк патрывожыў пастухоў і авечак, то ўсе ў нас дома праканаліся, што я сапраўды спаткаўся з воўкам.

Тыдні праз два давялося мне зноў ісці па гэтай дарозе. Але цяпер я быў не адзін— я ішоў на крок ззаду за сваім бацькам. Прышоўшы на гэта самае месца, я зірнуў туды, дзе стаяў воўк.



І што-ж вы думаеце? Гэты самы воўк стаяў і цяпер!

Нічога не сказаў я свайму бацьку, іду і пазіраю. Бадай-жа ты спрахла: гэта была старая крывая бярэзіна, абросшая мохам і нахіленая над долам!

Я баяўся смеху і нікому не казаў аб гэтай памылцы. І толькі цяпер, мае дарагія, прызнаюся вам ва ўсёй гэтай праўдзе.



**Сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі (большэвікоў) Беларусі**
**НІКАЛАЙ ФЁДАРАВІЧ ГІКАЛО**

# ЦУДОЎНЫ ПАЛАЦ

Дзень 29 верасня быў святам не толькі менскіх піонераў і окцябрат, але і ўсёй Совецкай Беларусі. У гэты дзень у Менску на вуліцы Энгельса адбылося ўрачыстае адчыненне палаца піонераў і окцябрат імя Нікалая Фёдаравіча Гікало.

Палац піонераў і окцябрат — гэта выдатны падарунак рэбятам ад лепшага друга дзяцей, кіраўніка беларускага народу, сакратара ЦК КП(б)Б Нікалая Фёдаравіча Гікало. Гэта па ініцыятыве Нікалая Фёдаравіча вырас такі казачны гмах-палац. Нікалай Фёдаравіч увесь час кіраваў будаўніцтвам палаца, ён цікавіўся найменшымі дробязямі, указваў, як знішчыць тыя або іншыя недахопы, каб і палац і ў палацы ўсё было зроблена найлепей і найпрыгажэй.

Многа чаго цікавага і карыснага знойдуць рэбята ў палацы. Тут і радыёпакой, і пакой сувязі, і зала транспарта, і бібліятэка, і тэатр, і многа іншых пакояў для гульняў і для працы. Дзверы палаца шырока адчынены для ўсіх рэбят, якія жадаюць весела правесці свой час, заняцца карыснай работай.



*Палац піонераў і окцябрат імя Н. Ф. Гікало ў Менску.*



*Пакой гульняў окцябрат у палацы.*



*Зала транспарта ў палацы.*



# ПАГРАНІЧНІК

Ішоў дазорны, пільным вокам
Глядзеў праз зараслі ў прасвет,
І раптам у снягах глыбокіх
Заўважыў нейчы свежы след.

Відаць, нядаўна, на світанні,
Граніцу вораг перайшоў:
Яго слядоў незатаптаных
Яшчэ і вецер не замёў.

Да баявых прыгодаў звычны,
Без меркаванняў і развваг,
Шынель скідае пагранічнік,
Бяжыць з вінтоўкай па слядах.

Абліўся твар гарачым потам,
Усю душу калоціць дрож.
Цяжэюць ногі. Скінуў боты
І ўжо імчыцца басанож.

Калючы снег у ногі коле.
Дарма! Настаў апошні час:
Ужо відаць за лесам поле,
А там—дарога і калгас.

Ужо калгаснікі і дзеці
Бягуць гурбой наперарэз,
Але і вораг іх прыкмеціў
І зноў, як воўк, пабег ў лес.

Няхай! Не ўдасца план злачынны:
Сабраўшы сілы, вартавы
Прабег яшчэ адну хвіліну
І ўзяў ён ворага жывым.

*(Урывак з „Дванаццаці песень“ Я. КУПАЛЫ, Я. КОЛАСА, А. АЛЕКСАНДРОВІЧА, П. БРОЎКІ і П. ГЛЕБКІ, прысвечаных наркому абароны СССР першаму маршалу Совецкага Саюза К. Е. ВАРАШЫЛАВУ).*

# ВОРАГІ

*Апавяданне Ал. МІРОНАВА*

*Рысункі А. ВОЛКАВА*

Пасёлак Сяргеева быў маленькі і зусім новы: ён з'явіўся ў густой, непраходнай тайзе толькі два гады назад. Тады ўпершыню прышлі ў тайгу людзі. Яны высеклі шмат дрэў, ачысцілі ад іх вялікі пляц зямлі і пабудавалі першыя хаткі. Пасёлак рос разам з заводам: тут будавалі вялікі лесапільны завод, і будаўнікі казалі, што хутка замест пасёлка тут вырасце цэлы прамысловы горад.

Але пакуль гэта была толькі кучка хатак, раскіданых па пляцы, заваленым будаўнічымі матэрыяламі. Нават школы не было яшчэ, і рэбят прыходзілася пасылаць вучыцца ў бліжэйшы горад Олу.

Звычайна рэбят падвозілі на грузавіку. Але ў гэты дзень усе машыны былі заняты на пабудове. Даведаўшыся аб гэтым з вечара, трое неразлучных сяброў Петрык, Алёшка і Чылікан усталі раней і, паснедаўшы, сабраліся за пасёлкам, ля дарогі.

— Спознімся, рэбята!—устрывожана сказаў Алёшка, падыходзячы да сяброў.—Я зайшоў да Міхайлавых, па Віцьку, а яго даўно няма.

— Пайшоў?—запытаў Петрык.

— Маці кажа, што ён пайшоў ужо гадзіну назад. Цяпер без чвэрткі сем.

— Паспеем,— парашыў Чылікан.— Трэба хутчэй толькі. У нас яшчэ больш гадзіны часу ёсць.

Размаўляючы, рэбята і не заўважылі, як увайшлі ў лес. Раніца стаяла вільготная і свежая. Верхавіны дрэў паружавелі ад нізкага яшчэ сонца.

Дарога была гладкай і бура-шэрай. Начная раса густа асела на зямлю, прыбіўшы ўвесь пыл і згладзіўшы ранейшыя сляды. У пылу, па правым баку дарогі, відаць былі сляды дзіцячых ног. Алёшка, ідучы першым, палічыў сляды: тут прайшло адзінаццаць чалавек.

— Нашы рэбята ўсе пайшлі ў горад,— сказаў ён.

— Але, бачу,—адказаў Чылікан.

Сябры зноў замоўклі. Дарога рабіла рэзкі паварот улева. На павароце, з боку, нібы велізарны калматы звер, узнімаўся вывернуты навальніцай корань сасны. Рэбята ведалі гэта месца: здалёк корань, аблеплены сухою травою і камякамі зямлі, нагадваў мамонта. Пад ім рэбята любілі адпачываць.

Зараз яны хутка прайшлі каля „мамонта“. Але раптам праз шагоў дзесяць Алёшка спыніўся. Ён паказаў рэбятам на дарогу. Там, у вільготным пылу, зверху слядоў дзяцей, відаць былі чужыя сляды. Рэбята ўбачылі, што двое людзей, абутых у шырока-



*Рэбята ўбачылі свежыя сляды...*

носыя бацінкі з падкоўкамі, з падноскамі, падбітымі вялікімі цвікамі, ішлі па слядах таварышоў. След быў вельмі свежым, незнаёмыя прайшлі не больш дваццаці хвілін таму назад.

Рэбята завярнуліся і асцярожна падышлі да „маманта“. Тут яны пераканаліся, што незнаёмыя доўга ляжалі ў яме пад вываратнем. У гэтым месцы валялася некалькі акуркаў з залатымі абадкамі на канцы, а крыху збоку—пустая каробка ад запалак. На каробцы была няруская наклейка. Алёшка моўчкі падняў каробку.

— Каробка японская,—зашаптаў ён сябрам,—і акуркі ад японскіх сігарэт.

Рэбята зразумелі ўсё. Параіўшыся яшчэ з хвіліну, Алёшка і Чылікан пайшлі ў школу, а Петрык, сунуўшы кнігі пад „маманта“, бягом памчаўся назад у пасёлак.

* * *

Не паспелі Чылікан з Алёшкам адыйсці і паўкілометра ад „маманта“, як раптам з лесу пачуўся асцярожны кліч. На дарогу вышаў высокі і худашчавы мужчына ў зашчытнай форме.

— У школу ідзіцё, рэбята?—запытаў ён.

Алёшка крыху здзівіўся, калі ўбачыў замест японца рускі твар, з крыху гарбатым носам і вузкімі бледнымі губамі. Але, стараючыся быць спакойным, ён смела адказаў:

— У школу. А вы?

— А я вось з горада іду,—крыва ўсміхнуўся незнаёмы. І паглядзеўшы на дарогу ён раптам строга загадаў:—А ну, хадзіце сюды!

Рэбята спалоханымі зышлі з дарогі ў лес. Чылікан на міг аглянуўся назад і ўбачыў, што Петрык адразу знойдзе месца, дзе трэба павярнуць у лес: тут на дарозе астаўся вельмі ясны след і нават стрэлка, вытаптаная ім знарок.

Шагоў за дваццаць ад дарогі рэбята ўбачылі другога незнаёмага. Гэта быў сапраўдны японец: нізкага росту, сухашчавы, са смуглаю скурай твару. У яго былі маленькія карычневыя вочкі, якія хаваліся пад чорнымі касаватымі бровамі.

— Прывёў?—запытаўся ён, гледзячы на рэбят.

— Як бачыце,—адказаў рускі і дадаў:—спатрэбяцца...

— Пайшлі!—падняўся японец.

Рэбята марудзілі. Чылікан хапіўся за ветку куста, і нібы незнарок зламаў яе, загнуў у той бок, куды пайшоў японец.

— А куды мы пойдзем?—запытаў Алёшка.—Нам у школу трэба.

— Ідзі, ідзі,—штурхануў яго рускі.

... Каля поўгадзіны яны ішлі па тайзе. Японец ішоў спераду, рускі ззаду рэбят. І Алёшка, і Чылікан стараліся як мага часцей пакідаць сляды. Чылікан пачаў кульгаць з першай-жа хвіліны дарогі. Ён ступаў на насок левай нагі, і ў мху заставаліся пасля яго глыбокія сляды. Часамі ён з сілаю ўбіваў насок у мох, і, вырываючы нагу, адварачваў ад зямлі вялікі камяк моху. Каля кустоў Алёшка нібы незнарок ламаў веткі.

Нарэшце на адной маленькай палянцы японец спыніўся. На дрэннай рускай мове ён запытаў Алёшку:

— Дзе працуе твой бацька?

— На пабудове завода,—адказаў Алёшка.—І яго бацька таксама там,—паказаў ён на Чылікана,

— Шмат там працуе людзей?—распытваў японец.

Рэбята сталі хлусціць, але так, каб ворагі не маглі запрыкмеціць хлусні. Рускі не пытаўся: ён услухоўваўся ў тайгу, і нават адышоўся крыху ў бок, каб допыт не перашкаджаў яму слухаць. Алёшка расказаў, што на заводзе працуе толькі шэсцьдзесят чалавек, што чырвонаармейцаў і пагранічнікаў у пасёлку няма...

— А ў горадзе,—зноў запытаў японец,—шмат чырвонаармейцаў?

— Ёсць, а ці многа, я не ведаю.

Нарэшце допыт скончыўся. Японец падышоў да рускага. Яны пашапталіся, і рускі накіраваўся да рэбят. У руцэ яго рэбята ўбачылі вялікі кінжал...

Сябры пераглянуліся. Не гледзячы на страх, яны зразумелі, што трэба ратавацца: Петрык, відаць, пазніўся з дапамогаю. І толькі рускі падышоў блізка да іх, як Алёшка кінуўся яму пад ногі, а Чылікан, скокнуўшы, ударыў яго галавою ў падбародак. Крыкнуўшы, рускі пакаціўся на зямлю. Рэбята ўбачылі, што японец хутка ляціць на дапамогу. Усхапіўшыся, яны кінуліся ў розныя бакі.

У гэту хвіліну з-за кустоў раздаўся залп. Збіўшы Алёшку, на палянку выскачыў чырвонаармеец, і японец наткнуўся на вінтоўку пагранічніка. З другога боку палянкі двое пагранічнікаў моцна трымалі рускага...

... Дамоў ішлі ўсе разам: спераду рэбята, за імі пагранічнікі, а сярод іх звязаныя ворагі—японец і рускі белагвардзеец. Петрык зноў і зноў апавядаў, як ён бегаў за дапамогай.

— Мы даўно за кустамі сядзелі, слухалі, як ты хлусіў ім,—смяяўся ён, пахлопваючы Алёшку па плячы.

Камандзір пагранічнікаў — начальнік заставы ў пасёлку скупа хвалячы сяброў, сказаў:

— Вы малайцы ўсе трое. Вы паступілі як належыць грамадзянам нашай краіны Дзякую за дапамогу, рэбята!



*Алёшка кінуўся пад ногі незнаёмаму, а Чылікан ударыў яго галавою ў падбародак.*



# ЗМАГАРЫ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ІСПАНІІ

## МАЛЕНЬКАЯ КУЛЯМЁТЧЫЦА

**Іспанскі народ храбра змагаецца супроць азвярэлых фашыстаў. У многіх баях прымаюць удзел жанчыны і нават дзеці. Вось што піша газета французскага комсамола пра адну іспанскую дзяўчынку кулямётчыцу:**

„Фашысты захапілі тэлефонную станцыю і адтуль стралялі ў рэспубліканцаў. Пляц горада Каталона быў пакрыт раненымі і забітымі. Рабочыя храбра біліся з фашыстамі. Дзяўчынка з двума таварышамі стаяла ля кулямёта. Таварышы загінулі ад куль фашыстаў, і дзяўчынка асталася адна. Тады яна села за кулямётам і адкрыла агонь. Яна страляла да таго часу, пакуль не выпусціла апошнюю кулю. Ёй ўдалося выратавацца толькі таму, што падаспела рабочая міліцыя і прагнала фашыстаў“.

## „МЫ ЯШЧЭ ЎБАЧЫМСЯ“

*(Пісьмо сына гераічнай іспанскай рэволюцыянеркі Даларэс Ібаруры)*

„Я іспанец, але жыву цяпер у Совецкім саюзе. Мая мама зараз у Іспаніі. Яна адна з кіраўнікоў змагання іспанскага народу супроць фашыстаў. Рабочыя празвалі яе „пасіянарыяй“, што значыць кіпучая, бясстрашная: яна як ніхто ўмее заклікаць і весці іх на барацьбу.

Мая маці—дачка шахцёра, бацька таксама шахцёр. І маці, і бацька—комуністы, рэволюцыянеры. Мы жылі вельмі бедна. Паліцыя кожны дзень рабіла ў нас вобыскі. Бацька сядзеў у турме столькі разоў, што я і лік згубіў. Маці пры мне арыштоўвалася разоў пяць.



*Рубен Руіс.*

Піонерам я стаў яшчэ ў Іспаніі, і чырвоны гальштук нашу з гонарам. Разам з другімі мадрыдскімі рэбятамі я расклейваў комуністычныя лістоўкі, прымаў удзел у дэманстрацыях. У кастрычніку 1934 года ў дні гераічнага паўстання гарнякоў Астуры, мы, піонеры, замыкалі трамвайныя правады і такім чынам спынялі рух трамваяў у Мадрыдзе*).

Вучыцца мне было вельмі цяжка: у нас не было грошай купіць нават падручнікі. Я некалькі разоў хацеў кінуць школу, але маці мне гаварыла: „Рубен, вучыся, чаго-б гэта ні каштавала; каб перамагчы, рабочыя павінны аўладаць ведамі“.

Маці не магла глядзець за мной, і ў 1935 г. я пераехаў у Совецкі Саюз. Совецкі Саюз стаў для мяне другой радзімай. Да мяне адносяцца вельмі добра, па-таварыску. Зараз я рыхтуюся да ўступлення ў рады ленінскага комсамола.

Нядаўна ў піонерскім лагеры „Артэк“ я атрымаў пісьмо ад іспанскіх таварышоў. Яны пішуць, што дапамагаюць рабочай міліцыі змагацца супроць фашыстаў. Мае браты ў Іспаніі перамогуць і раз назаўсёды пакончаць з фашызмам. Усе мае думкі і сэрца разам з іспанскім народам, разам з маёю маткаю, якой я шлю гарачае прывітанне. Я добра памятаю твае словы, мая дарагая мама, якія ты мне сказала на развітанні: „Бывай, Рубен, мы яшчэ ўбачымся! Добра вучыся, працуй і заўсёды заставайся верным справе рабочага класа“.

**Рубен Руіс.**

---

## „ПРЫШЛІ НАМ ПАРТРЭТ ЛЕНІНА“

*(Пісьмо чэхаславацкага піонера гомельскаму вучню Фішбейну).*

„Добры дзень, Лёня! Я атрымаў тваё пісьмо, за якое вельмі дзякую. Цэлы дзень я разглядаў прысланыя табой фатаграфіі. Спяшаюся паведаміць цябе пра вялікае гора, якое стрэла нашу сям'ю. Кожны дзень мой бацька ў шэсць гадзін раніцы ішоў на фабрыку і толькі позна ўвечары, у дзевяць або ў дзесяць гадзін, прыходзіў назад. Але трыццатага гадзіннік ужо прабіў адзінаццаць, а бацькі яшчэ не было. Што здарылася? Я і маці былі вельмі ўстрывожаны. Раптам моцна пастукалі ў дзверы. Я хутка вышаў з пакоя і запытаў:

— Хто там?

— Я, Фокс,—пачуўся адказ таварыша майго бацькі.—Фрыдрыху (гэта мой бацька) на канвееры адарвала правую руку...

Я сказаў пра гэта матцы, і яна залілася слязмі.

— Гэты няшчасны выпадак адбыўся па яго віне. Не дам нічога...—сказаў фабрыкант, калі матка пашла прасіць дапамогі.

Як цяпер нам жыць—падумай сам!

Зараз мне прыходзіцца працаваць яшчэ больш чым раней, бо я астаўся адзіным работнікам у сям'і... У мяне да цябе, Лёня, вялікая просьба. *Я і мае таварышы шмат чулі пра Леніна, але яго партрэта ў нас няма. Вельмі прашу—прышлі нам партрэт Леніна.*

*З таварыскім прывітаннем твой таварыш* **А. Вейзэ.**



*Маленькі добраахвотнік іспанскай народнай міліцыі. Ён ужо прымаў удзел у некалькіх бойках з мяцежнікамі.*

*) Мадрыд—сталіца Іспаніі.

# ВОЖЫК

*Апавяданне М. ЛУПСЯКОВА*

*Рысункі В. ЦІХАНОВІЧА.*

Неяк улетку прапаў быў Коляў коцік. У хаце хутка развяліся мышы. Яны кожную ноч падымалі такі піск, што перашкаджалі спаць. Ад мышэй, здавалася, не было ратунку: яны грызлі ўсё, што толькі было ў хаце. Нават у Колявых ботах і там прагрызлі дзіркі.

Аднаго разу позна ўвечары вярнуўся з работы бацька.

— Ну,—кажа,—прынёс ката.

У хаце было цемнавата і Коля не мог адразу разгледзець новага ката. Але, калі запалілі лямпу, ён убачыў на падлозе звычайнага вожыка.

— Ды гэта-ж вожык!—здзівіўся Коля.

— Так, вожык. Але мышэй ён будзе лавіць не горш за ката.

Коля не паверыў быў бацькавым словам. Але якое-ж было яго здзіўленне, калі праз некаторы час у хаце не стала мышэй. Коля спаў ужо спакойна: ён не чуў болей мышынага піску.

Коля палюбіў новага жыхара і шмат увагі алдаваў яму. Вожык заўсёды ляжаў у кутку другога пакою, дзе знаходзілася розная гаспадарчая дробязь.

Аднойчы Коля не знайшоў вожыка ў хаце. Спачатку ён падумаў, што вожык не вярнуўся з палявання, і на гэтым супакоіўся. Але і на другі, і на трэці, і на чацверты дзень вожыка ў хаце не было.

Коля засумаваў. Ён некалькі разоў пераглядаў усё ў хаце, але дарэмна: вожык знік.

Праз тыдні паўтары пасля гэтага да Колі прышлі яго сябры Міця і Васька. Хлопцы пачалі гуляць у хованку. Міця і Коля парашылі схавацца ад Ваські ў сенцах. Забраліся ў цёмны кут за бочку.

— Тут не знойдзе,—сказаў Коля.

Раптам Міця падскочыў і нема закрычаў.

— Ты чаго?—спалохаўся Коля.

— Ай, ай!—галасіў Міця.—Нагу пакалоў!

З хаты на крык прыбеглі Васька і Колін матка.

— Што там з вамі?—запытала матка.

З кутка ў адказ пачуўся ўсхваляваны голас Колі:

— Ды гэта-ж наш вожык! Глядзіце, яго прыціснула бочкай.

І сапраўды, з-пад бочкі выцягнулі вожыка.

— Ён нежывы,—занепакоіўся Коля.

Але, калі прынеслі вожыка ў хату і паклалі на падлогу, ён заварушыўся і пабег. Вожык стаў чамусьці вельмі малым і тонкім.

Увосень вожык уцёк у лес, каб падрыхтавацца да зімняй спячкі, і пакінуў хату на гэты раз ужо назаўсёды.



# „МАЛАЯ БЕЛАРУСКАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫГУНКА“

Вестка аб пабудове дзіцячай чыгункі хутка абляцела ўвесь горад Гомель. Усхваляваныя радаснай навіною, рэбята адзін за другім ішлі на стадыён „Лакаматыў“, дзе будавалася чыгунка. Ім нецярпелася: хацелася хутчэй убачыць сапраўдную маленькую чыгунку, пакатацца на маленькім поездзе.

Поезд—невялікі паравоз і два вагончыкі на 12 чалавек кожны—рабілі рабочыя завода імя Ланцуцкага.

Рэбята таксама не драмалі: яны рыхтаваліся да прыёму сваёй чыгункі. Каля сотні лепшых піянераў, ударнікаў вучобы, узяліся вывучаць чыгуначную справу. Ім ва ўсім шчыра дапамагалі арганізатары чыгункі—начальнік палітаддзела беларускай чыгункі тав. Панамароў і начальнік чыгункі тав. Владзімірскі, дапамагалі старыя чыгуначнікі.



*Начальнік палітаддзела беларускай чыгункі тав. Панамароў і начальнік будаўніцтва дзіцячай чыгункі ордэнаноска Е. Вілетнікава сярод рэбят-пасажыраў.*

Чыгунка пабудавана!

Радасці шчаслівых рэбят не было канца, калі поезд першы раз крануўся са станцыі „Шчаслівая“ на станцыю „Радасная“. Гучнае „Ура!“ у гонар любімага Сталіна за шчаслівае дзяцінства доўга не сціхала на стадыёне.

Чыгунку назвалі—„Малая беларуская дзіцячая чыгунка“. Яе абслугоўваюць самі дзеці. Яны і качагары, і машыністы, і пасажыры.

Дзіцячая чыгунка — не толькі забава, але і вялікая школа будучых работнікаў соцыялістычнага транспарта.


**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТОРА ДВБ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

КАСТРЫЧНІК 1936 г. № 10

ЦАНА 30 кап.

# ЯК ГЭТА ЗДАРЫЛАСЯ?


Вось цяпер мы і праверым колькі ты падрасцеш


І бацька ўбіў у дрэва тоўсты цвік


Але што за дзіва? Прайшоў год, а сын паменшаў

## КУДОЮ ПРАЙСЦІ ДА МАТКІ?


Дзяўчынка заблудзілася ў лесе і не ведае, як дабрацца да маткі. Дапамажыце ёй знайсці дарогу.

## ЗАГАДАЧНЫ РЫСУНАК


Знайдзіце паляўнічага, які забіў аленя.

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА. Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна 16000 экз. Зак. № 1074 Галоўлітбел № 5345.